© ПАЛІТЫЧНАЯ СФЕРА
ISSN 1819–3625 №16-17(1-2), 2011

Аляксей Ластоўскі

# Вобразы ўлады, народу і «чужых» у публічных выступах вышэйшых дзяржаўных асобаў Беларусі перыяду «лібералізацыі» (2008–2010 гады)[1]

Беларусь уяўляе з сябе своеасаблівы казус на еўрапейскай палітычнай карце. Наша краіна ніяк не ўпісваецца ў агульнапрынятыя нормы вядзення ўнутры- і замежнапалітычных справаў. Сталае парушэнне «правілаў палітычнай гульні» ставіць пытанне даверу і, найперш, даверу да публічных выступаў ды выказванняў. На наш погляд, гэта паказвае на неабходнасць павысіць даследчую ўвагу да суаднясення словаў і рэальнасці ў беларускай палітыцы. Гэта неабходна, каб зразумець статус і значэнне публічных выступаў як крыніцы інфармацыі пры аналізе ўнутранай і вонкавай палітыкі Беларусі.

Разам з тым, стаўленне да публічных выступаў прадстаўнікоў беларускіх уладаў па-ранейшаму пераважна будуецца ў рэжыме, калі 1) тлумачацца толькі самыя апошнія пасланні (без уліку гісторыі ды працэсу зменаў), 2) разглядаюцца выключна выступы Аляксандра Лукашэнкі, 3) выбіраецца стратэгія або поўнага даверу, або поўнага недаверу да выказаных фактаў і намераў. Для даследаванняў беларускай палітыкі па-ранейшаму застаецца надзённаю задача шырокага і

[1] Гэты тэкст рэпрэзентуе вынікі даследавання «Прамаўляючы лібералізацыю: публічныя прамовы і курс беларускай палітыкі ў 2008–2010 гг.», ажыццёўленае Інстытутам «Палітычная сфера» пры падтрымцы Беларускага фонду публічнай палітыкі. Працоўная група: Андрэй Казакевіч, Аляксей Ластоўскі, Дзяніс Мельянцоў, Міхаіл Нядзвецкі, Таццяна Чыжова, Алесь Шамякін.

выверанага аналізу публічных выступаў айчынных палітыкаў.

Акрамя таго, улічваючы надзвычай высокую ступень цэнтралізаванасці беларускага грамадства, калі дзяржава мае практычна поўную манаполію на кантроль і ажыццяўленне інавацыяў унутры краіны, актуальнаю застаецца задача дэканструкцыі вобразу Беларусі, які ствараюць улады. Словы, метафары, прапановы, з якіх складаюцца палітычныя прамовы, служаць афармленню і разуменню беларускай сітуацыі ўладнымі элітамі ды адначасова маніфестуюць абраны і рэалізаваны курс для шырокай публікі.

Да гэтага часу найчасцей у беларускіх медыя можна сустрэць кароткія аналітычныя тэксты, у якіх разбіраюцца апошнія публічныя выступы прадстаўнікоў уладаў Беларусі, часам з кароткаю гістарычнаю рэтраспектывай або параўнаннем аднаго-двух кейсаў[2]. Але наўрад ці такія экспертныя ацэнкі могуць цалкам замяніць навуковы аналіз.

На базе Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта ў краіне сфармавалася досыць моцная школа дыскурс-аналізу, якая ўвяла ў зварот прынцыповыя тэарэтычныя і метадалагічныя тэксты заходніх даследнікаў ды актыўна развівае гэтую методыку (Современный дискурс-анализ…). Але, напэўна, за адзіным выключэннем даследавання дыскурсу беларускіх апазіцыйных палітыкаў (Ухванова-Шмыгова ды інш., 2008), прадстаўнікі гэтай школы пазбягаюць разгляду актуальных праблемаў палітыкі ў Беларусі.

Крыху з іншых метадалагічных пазіцыяў да гэтага пытання падступаецца яшчэ адзін прадстаўнік БДУ Аляксандр Сарна, які аналізаваў прэзідэнцкія выбары 2006 года менавіта як адлюстраванне розных стратэгіяў палітычнай рэкламы, вылучаючы асноўныя вобразы, прапагандаваныя ўладамі і апазіцыяй (Сарна, 2007). Відавочна, у ягоным падыходзе назіраецца большы ўплыў метадалогіі візуальных даследаванняў, калі менавіта вобразы ўспрымаюцца як метафары, дзе закладаецца сэнс уладных дачыненняў.

Яшчэ з беларускіх даследаванняў варта згадаць магістарскую працу Юнэлі Сальнікавай (Сальнікава, 2009), абароненую ў Еўрапейскім гуманітарным універсітэце, якая аналізавала афіцыйны дыскурс на падставе вывучэння тэкстаў газеты «Советская Белоруссия» (цяпер – «Беларусь Сегодня»), органа Адміністрацыі прэзідэнта, за 15 гадоў – з другой паловы 1994 года да 2009 года. Сама праца пабудаваная на моднай цяпер сацыяльна-канструктывісцкай метадалогіі, адкуль вынікае інтарэс да інстытуцыялізацыі існай структуры ўлады праз дыскурс. У працы прыводзіцца досыць цікавае апісанне розных механізмаў легітымізацыі афіцыйнага парадку. На жаль, яна мае істотныя метадалагічныя недахопы: напрыклад, не зразумела, аналізуецца дыскурс газеты або дыскурс

2 Шматлікія прыклады такіх бліц-аналізаў можна знайсці на сайтах радыё «Свабода», інтэрнэт-часопіса «Новая Еўропа», кансорцыуму «ЕўраБеларусь» і г. д.

прэзідэнта Беларусі, і гэта ў значнай ступені ўскладняе ўспрыняцце тэксту і вынікаў даследавання.

Даследнікі з-за межаў Беларусі звычайна любяць параўноўваць «афіцыйны» і «апазіцыйны» дыскурсы. Гэтак, Анна Бжазоўска разглядае два канкурэнтныя беларускія наратывы: «нацыянальны» або «дэмакратычны» наратыў vs. «постсавецкі» або «пралукашэнкаўскі» (pro-Lukashenka) наратыў (Brzozowska, 2003). Кожны з іх пры дапамозе блокаў розных узаемазлучаных сімвалічных прапазіцыяў выбудоўвае ўласны Міф, хто такія беларусы. Аўтарка разглядае і асноўныя метафары, якія выкарыстоўваюцца ў канкурэнтных наратывах. Пры гэтым абодва наратывы маюць аўтарытарныя рысы і размаўляюць з народам з пазіцыі перавагі. Аб'яднаўчым фактарам для абодвух наратываў служыць таксама выкарыстанне метафары «Народу-Сям'і» ў «бацькоўскай» версіі. Праўда, наратыў Лукашэнкі выглядае куды больш адаптыўным і паспяховым, таксама шмат у чым дзякуючы эфектыўнай эксплуатацыі вобразу клапатлівага «бацькі». Акрамя таго, у прэзідэнта ёсць адна сур'ёзная перавага – прысваенне моцнай метафары савецкай суб'ектывацыі, укаранёнай у грамадскім досведзе.

У падобным ключы Імке Гансэн (Гансэн, 2006) кажа пра два дыскурсы ў беларускай палітычнай прасторы: уладна-афіцыйны і апазіцыйны. Галоўнымі рысамі афіцыйнага дыскурсу яна лічыць аптымізм, даступнасць, сувязь з простым народам і рамантычны ўтапізм. Будучыня Беларусі тут малюецца з акцэнтам на эканамічны рост і дабрабыт. Пры гэтым у дыскурсе ўвесь час прысутнічаюць згадкі пра «ворагаў», якія ствараюць сталае пачуццё пагрозы існаму парадку. Іншыя найважнейшыя рысы афіцыйнага дыскурсу – яго шматслоўе і канцэнтрацыя на постаці Лукашэнкі. Сталыя спасылкі на гісторыю зводзяцца галоўным чынам да гераізацыі Вялікай Айчыннай вайны праз стварэнне міфу пра моцны партызанскі рух. Адрозніваюцца гэтыя дыскурсы і сродкамі камунікацыі: гэтак, апазіцыйны дыскурс практычна выцеснены ў інтэрнэт. Але Імке Гансэн падкрэслівае, што яшчэ важнейшае адрозненне мовы, на якой ажыццяўляецца камунікацыя: дыхатамія рускай/беларускай мовы набывае палітычнае вымярэнне. У плане рыторыкі аўтарка вылучае два ключавыя словы афіцыйнага дыскурсу: «маладая дзяржава» і «стабільнасць». Апроч гэтага, яна дэманструе, як па-рознаму ў рамках двух дыскурсаў інтэрпрэтуецца тэрмін «дэмакратыя». Параўнанне ахопу публічнай прасторы, у якой выяўляюцца дыскурсы, відавочна ідзе на карысць афіцыйнага: тут і высокая рэпрэзентатыўнасць, і праца з адрасатам «пасланняў» на некалькіх узроўнях. Прысутнасць жа ў публічнай прасторы апазіцыйнага дыскурсу застаецца вельмі абмежаванаю.

І, нарэшце, варта згадаць артыкул латвійскай даследніцы Салвіты Дэніс, якая прааналізавала навагоднія звароты Аляксандра Лукашэнкі за 2003–2009 гады (Денис, 2010). Разглядаючы такія звароты як істотную форму палітычнай камунікацыі, аўтарка вылучае тры найбольш важныя вымярэнні аналізу: легітымацыя

тэрыторыі (дом, зямля і г. д.), канцэпт народу (групавая ідэнтычнасць) і канцэпт палітычнага актара. Адзначаецца, што найбольш ужыванаю метафараю для рэпрэзентацыі нацыянальнай тэрыторыі ёсць вобраз дома, які дазваляе выбудоўваць пазітыўныя канатацыі ўтульнасці і народу-«гаспадара». Зноў жа, як і папярэднія даследнікі, Салвіта Дэніс падкрэслівае, што паноўная стратэгія вызначэння нацыі заключаецца ў надзяленні яе рысамі сям'і, што нараджае патрэбу ў адзінстве і «бацькоўскім» клопаце. Таксама істотныя характарыстыкі для аўтатрэнінгу нацыі – мудрасць і працавітасць. І нарэшце, навакольны свет апісваецца ў навагодніх прамовах Аляксандра Лукашэнкі як падзелены на «нацыі-ворагі» і «нацыі-сябры», пры гэтым дамінуюць усё ж матывы вонкавай небяспекі, пагрозы Беларусі.

Тут мы прывялі найбольш істотныя даследаванні, якія аналізуюць асаблівасці афіцыйнага дыскурсу. Таксама некаторыя рысы ўладнага дыскурсу разглядаюцца ў шэрагу публікацыяў, прысвечаных розным праектам і стратэгіям пабудовы нацыянальнай ідэнтычнасці ў Беларусі, але разгляд масіву гэтых тэкстаў патрабуе адмысловага месца.

Асноўная праблема пералічаных публікацыяў – гэта адвольнасць базы крыніцаў, калі зусім не зразумела, якім чынам адбіраюцца тэксты і прыводзяцца цытаты (адзінае выключэнне – артыкул Салвіты Дэніс). Гэта ў значнай ступені павышае суб'ектыўную абумоўленасць аўтарскіх высноваў. Відавочна, што паноўнаю метадалогіяй выступае акурат дыскурс-аналіз, у межах якога асноўны акцэнт робіцца на вылучэнне базавых метафараў і камунікатыўных стратэгіяў і амаль цалкам знікае актар (прамоўца) са сваімі інтэнцыямі ды матывамі, а таксама кантэкст выказвання.

У прапанаваным тэксце мы спрабуем пазбегчы абедзвюх пастак. Папершае, будзе выкарыстоўвацца абмежаваны і дакладны корпус тэкстаў, што дазваляе таксама дапоўніць якасныя інтэрпрэтацыі колькасным кантэнт-аналізам. Па-другое, мы ўсё ж спрабуем вярнуць у даследчую прызму матывацыю «спікераў» і сітуацыйны кантэкст.

Першая частка тэксту будзе пабудаваная на своеасаблівай праверцы высноваў, зробленых іншымі аўтарамі. Гаворка ідзе пра пабудову вобразаў улады і нацыі ў афіцыйным дыскурсе. Мы звяртаемся да канкрэтнага перыяду (2008–2010 гады) і будзем глядзець, ці сапраўды вылучаныя метафары прысутнічаюць у публічных прамовах прадстаўнікоў беларускіх уладаў, ці можам мы назваць іх перманентнымі і характэрнымі. Але каштоўнасці ў праверцы чужых гіпотэзаў няшмат, таму другая частка даследавання выходзіць за межы сфармаванай літаратуры. Мы паспрабуем ажыццявіць больш сітуатыўны аналіз, а менавіта, ухапіць дынаміку рэпрэзентацыі «чужых» для беларускай улады – рэпрэзентацыі, зададзенай патрэбаю ажыццяўляць лібералізацыю ў разгледжаны перыяд.

# І. Апісанне метадаў

Пад публічнымі выступамі ў гэтым тэксце разумеюцца выказванні, якія арыентаваныя на ўспрыманне максімальна шырокай публікай і распаўсюджваюцца праз сродкі масавай інфармацыі. Усталяванне масавай дэмакратыі істотна паўплывала на патэрны паводзінаў уладнай эліты, бо канкурэнцыя за вышэйшыя службовыя пасады праз электаральны працэс патрабуе спрактыкаванага звароту да публікі, акрамя таго, узмацненне значэння СМІ (што метафарычна адлюстроўваецца ў паняцці «чацвёртая ўлада») таксама робіць неабходным для сучасных палітыкаў частыя публічныя выступы, удзел у інтэрв'ю і каментаванне прынятых рашэнняў.

Былі ўведзеныя наступныя храналагічныя рамкі для даследавання – з пачатку 2008 года да прэзідэнцкіх выбараў у снежні 2010 года. Гэты перыяд досыць спецыфічны для беларускай палітычнай і сацыяльна-эканамічнай сітуацыі: ён атрымаў вонкавае азначэнне як перыяд «лібералізацыі». З пачатку 2008 года ў Беларусі ўстойліва і паралельна развівалася сацыяльна-эканамічная лібералізацыя, выкліканая ў першую чаргу неабходнасцю рабіць захады ў адказ на сусветны эканамічны крызіс, і палітычная лібералізацыя, калі на вышэйшым узроўні прагучала жаданне палепшыць узаемаадносіны з Захадам, вынікам чаго сталася вызваленне палітвязняў. Гэты перыяд характарызуецца і спробамі ўладаў Беларусі дамагчыся міжнароднага прызнання спачатку парламенцкіх выбараў 2008 года, а затым і прэзідэнцкіх у снежні 2010 года. Але гвалтоўны разгон дэманстрацыі пратэсту на плошчы Незалежнасці 19 снежня 2010 года, арышты ўдзельнікаў акцыі і судовыя працэсы над «арганізатарамі беспарадкаў» прывялі да асуджэння палітыкі ўладаў Беларусі з боку міжнароднай грамадскасці і паслядоўнага згортвання беларускім дзяржапаратам папярэдніх «вольнасцяў», у першую чаргу ва ўнутрыпалітычнай сферы. Варта адзначыць, што гэта быў адносна спрыяльны перыяд для беларускай эканомікі, а пасля згортванне лібералізацыі ішло паралельна з узмацненнем эканамічнага крызісу 2011 года (BISS Trends, 2011).

У новых умовах для беларускіх службоўцаў узнікае неабходнасць задаваць магчымасці і межы для зменаў, якія б прымаліся ў якасці інструкцыі да дзеяння і транслявалі б для шырокай публікі афіцыйнае бачанне сітуацыі. Але ва ўмовах лібералізацыі не менш важным было і вызначэнне межаў і допускаў, змякчэнне і мадыфікацыя правілаў для дзяржаўнага апарату, што ажыццяўлялася з дапамогаю публічных прамоваў.

Пры выбары для аналізу пазіцыяў палітычных актараў мы арыентаваліся як на фармальныя крытэры (замацаванне структуры дзяржаўнай улады ў Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь), так і на ўсталяваныя практыкі палітычнага жыцця краіны. Паводле Канстытуцыі, кіраўніком беларускай дзяржавы з'яўляецца прэзідэнт, які фактычна стаіць над галінамі ўлады. Выканаўчая ўлада ў краіне належыць

ураду (Савет міністраў), а заканадаўчая ўлада ажыццяўляецца праз парламент, які складаецца з дзвюх палатаў. З аналізу давялося выключыць судовую ўладу, чацвёрты канстытуцыйна замацаваны кампанент дзяржаўнай улады, бо судовая сістэма дэцэнтралізаваная, існуюць тры найвышэйшыя судовыя органы, якія маюць невялікае значэнне з пункту гледжання агучвання і фармулявання знешняй і ўнутранай палітыкі. З іншага боку, як адзначаў беларускі палітолаг Віталь Сіліцкі, дзейнасць прэзідэнцкай адміністрацыі ў Рэспубліцы Беларусь падмяняе дзейнасць іншых дзяржаўных органаў улады і кіравання, а вышэйшыя кіраўнікі адміністрацыі набываюць статус публічных палітыкаў (Сіліцкі, 2010: 9), таму лагічна было б уключыць у наш аналіз кіраўніка Адміністрацыі прэзідэнта.

Такім чынам, для аналізу былі абраныя публічныя выступы наступных службовых асобаў:

1) прэзідэнт Рэспублікі Беларусь (увесь даследаваны перыяд – Аляксандр Рыгоравіч Лукашэнка);

2) прэм'ер-міністр Рэспублікі Беларусь (увесь даследаваны перыяд – Сяргей Сяргеевіч Сідорскі);

3) старшыня Савета Рэспублікі (з 31 кастрычніка 2008 года – Барыс Васільевіч Батура, з 24 траўня 2010 года – Анатоль Мікалаевіч Рубінаў);

4) старшыня Палаты прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь (з 27 кастрычніка 2008 года – Уладзімір Паўлавіч Андрэйчанка);

5) кіраўнік Адміністрацыі прэзідэнта Рэспублікі Беларусь (з ліпеня 2008 года – Уладзімір Уладзіміравіч Макей).

Для адбору выступаў выкарыстоўваліся пераважна наступныя крыніцы: афіцыйныя інтэрнэт-сайты (Афіцыйны партал прэзідэнта Рэспублікі Беларусь, Афіцыйны сайт Палаты прадстаўнікоў), матэрыялы інфармацыйнага агенцтва БЕЛТА, найбуйнейшых дзяржаўных выданняў: «Беларусь Сегодня», «Звязда», «Рэспубліка» (газета Савета міністраў), а таксама часопіса «Беларуская думка», у якім часта публікуюцца разгорнутыя тэксты выступаў і артыкулы вышэйшых беларускіх службоўцаў. Акрамя таго, для пошуку асобных выступаў, якія не былі прадстаўленыя ў асноўных крыніцах, спарадычна выкарыстоўваліся і іншыя крыніцы. Праверка рэпрэзентатыўнасці гэтых крыніцаў праз найбольш папулярную пошукавую інтэрнэт-сістэму «Google» засведчыла іх дастатковасць, фактычна ўсе значныя тэксты трапляюць у гэтую выбарку (некаторае выключэнне складаюць толькі тэлевізійныя інтэрв'ю, якія не заўсёды падлягаюць тэкставай расшыфроўцы, і часцяком у выкарыстаных крыніцах толькі паведамляецца пра факт інтэрв'ю і галоўныя ўзнятыя тэмы).

З адабраных крыніцаў была сфармаваная база выступаў паводле пяці ўладных пазіцыяў і паводле гадоў, якія даследаваліся (2008, 2009, 2010). Гэта дазволіла выкарыстоўваць электронныя тэхналогіі пошуку паводле ключавых словаў (напрыклад, «народ» або «апазіцыя»). Пасля гэтага аналізаваліся асноўныя характарыстыкі апісання базавых катэгорыяў

для ўладнага дыскурсу (вылучаныя на аснове папярэдніх даследаванняў) як у статыцы, так і ў дынаміцы за тры гады. На наступным этапе для праверкі высноваў, зробленых на падставе якаснай інтэрпрэтацыі, выкарыстоўвалася праграма кантэнт-аналізу «ВААЛ».[3] Падрабязнае апісанне магчымасцяў праграмы і метадаў працы можна знайсці на афіцыйным сайце (Проект ВААЛ).

## II. Народ – улада – прэзідэнт: формула адзінства

Адною з цэнтральных задачаў даследавання быў аналіз фармавання і трансляцыі вобразаў улады, народу і «чужых» у выступах беларускіх дзяржаўных асобаў перыяду лібералізацыі. Калі гаворка ідзе пра палітычную ідэнтычнасць палітычных актараў, то важным у першую чаргу ўяўляецца вобраз «Я – МЫ» і групы аднясення, з якой актары сімвалічна знаходзяцца ў адзінай прасторы і падзяляюць агульныя каштоўнасці. Вывучэнне корпусу тэкстаў дазваляе казаць пра складаную структуру сімвалічнай прасторы, у якой вылучаюцца ўзаемаспалучаныя ключавыя элементы УЛАДА – НАРОД – КРАІНА, што пацвярджае высновы іншых даследнікаў афіцыйнага дыскурсу.

Найбольш устойлівая асабістая ідэнтыфікацыя з уладаю назіраецца ў Аляксандра Лукашэнкі. У ягоных прамовах вызначэнні «Я», «Лукашэнка», «прэзідэнт» выглядаюць сінанімічнымі і ўзаемазамяняльнымі, такім чынам, адбываецца семантычная трансфармацыя самога вызначэння «прэзідэнт»: абіраная пасада (якую тэарэтычна могуць займаць розныя людзі) ператвараецца ў персанальны атрыбут, неаддзельны ад асобы Аляксандра Лукашэнкі. Цалкам лагічнаю выглядае і афіцыйная забарона на ўжыванне ў Рэспубліцы Беларусь слова «прэзідэнт» у адносінах да іншых пасадаў, акрамя кіраўніка дзяржавы. У сістэме ўяўленняў, створанай беларускімі ўладамі, можа быць толькі адзін прэзідэнт у краіне.

Народ у публічных выступах беларускіх палітыкаў выступае фактычна сакральнаю катэгорыяй (у навагоднім віншаванні Лукашэнкі ў 2008 годзе народ Беларусі папросту вызначаецца як «святое адзінства» (Лукашенко, 2008a), галоўнаю крыніцаю легітымнасці ўладаў (і парламент, і прэзідэнт фармальна абіраюцца самім народам). У гэтым выпадку відавочнае пазычанне досведу выкарыстання катэгорыі «народ» у Савецкім Саюзе, дзе камуністычныя ўлады паводле афіцыйнай версіі «служылі» народу, які быў крыніцай улады. Ажыццяўлялася поўная інверсія рэальнага стану рэчаў, калі Камуністычная партыя цвёрда кантралявала ўсе палітычныя і сацыяльна-эканамічныя працэсы ў краіне. Жыццёвы досвед шматлікіх

[3] Аўтар дзякуе за магчымасць скарыстацца гэтай праграмай Беларускаму фонду публічнай палітыкі, а таксама персанальна Надзеі Яфімавай і Мікалаю Лявонаву за дапамогу і парады ў асвойванні і выкарыстанні дадзенай праграмы.

прадстаўнікоў сучаснай беларускай палітычнай эліты наўпрост злучаны з набыццём слоўніка і праксісу ў камуністычнай сістэме, таму не павінна дзівіць значная доля пераемнасці з савецкіх часоў, якая назіраецца і ў публічнай рыторыцы.

Гэта ж датычыць і выкарыстання слова «народ», якое мусіць адносіцца да ўсіх грамадзянаў краіны, але на практыцы мае цалкам вызначаныя якасныя характарыстыкі, што працуюць як механізмы ўключэння і выключэння. Народ у Беларусі – «просты»: «*Наш народ, это самое главное, не расколот на кучку сверхбогатых олигархов и нищее большинство*» (Лукашенко, 2008b). Адпаведна, улады прапагандуюць вобраз гамагеннасці і згуртаванасці, татальнага адзінства, і з гэтага паслядоўна выцякае адсутнасць разыходжанняў, спрэчак і адрознення меркаванняў «унутры» народу. Латышская даследніца Салвіта Дэніс таксама адзначае, што адзінства выступае галоўнаю камунікацыйнаю стратэгіяй для зваротаў прэзідэнта: «*Происходит своеобразный аутотренинг единства нации, причем легитимация необходимости единства достигается преимущественно через создание образа того, что произойдет, если белорусский народ не будет единым. Выявляется формула "единство-стабильность-уверенность в будущем". Причем ключевым понятием коммуникатора является именно единство*» (Денис, 2010: 83-84).

Іншым важным наступствам выкарыстання формулы «простага» народу ёсць праграмаванне заніжаных сацыяльных стандартаў, калі багацце не можа быць надзвычайным; у мяккай версіі яно можа быць апраўданае толькі дзякуючы цяжкай працы. З іншага боку, менавіта ў гэтым стаўленні крыецца радыкальны разрыў з савецкаю сістэмаю каштоўнасцяў, у якой, у адпаведнасці з марксісцкаю філасофіяй гісторыі, існавала досыць устойлівая сістэма апазіцыяў працоўныя/бедныя (станоўчае) – паразіты/багацеі (негатыўнае). У публічных выступах А. Лукашэнкі яшчэ чутныя водгукі гэтай сістэмы каштоўнасцяў, у якой галоўнай якасцю народу ўяўляецца працавітасць. Прывядзем кароткія формулы, якія сустракаюцца ў розных прамовах: «*Больше всего трудился народ*»; «*Наш народ – народ-труженик*». Але галоўнаю стратэгіяй кіраўніцтва краіны на доўгія гады абвяшчаецца павышэнне ўзроўню жыцця і дабрабыту насельніцтва, што вядзе да частковай рэабілітацыі багацця як жаданага ідэалу – але толькі ў той ступені, наколькі яно не спекуляцыйнае, а «заробленае». «*Эта идеология минимального, но стабильного потребления стала новой народной верой, пропитала собой всю социальную жизнь*» (Горных, 2008: 180).

Важным нам уяўляецца той факт, што ў выступах А. Лукашэнкі часта адбываецца зварот да падзеяў 1994 года, калі ён упершыню перамог на прэзідэнцкіх выбарах. Сітуацыя напачатку 1990-х апісваецца як апакаліпсічная, калі краіна стаяла на краі бездані і разруха панавала ў большасці сфераў жыцця. Толькі мудрае рашэнне народу (абранне А. Лукашэнкі прэзідэнтам) уратавала краіну

ад катастрофы. Адпаведна, Лукашэнка – не толькі выбраннік народу, але і яго ратаўнік, які з цягам часу трансфармаваўся ў абаронцу: «*Я для того и Президент, чтобы защищать народ*» (Лукашенко, 2010d).

З іншага боку, сталыя адсылкі да прэзідэнцкіх выбараў 1994 года і практычна поўнае ігнараванне наступных выбараў у выступах 2008–2010 гадоў сведчаць пра тое, што выбар народу быў зроблены толькі адзін раз – але назаўжды. Наступныя выбары могуць толькі пацвердзіць зроблены выбар, рытуальна абнавіць непасрэдную сувязь паміж народам і прэзідэнтам, але не ў стане гэтую сувязь разарваць. Таму сама працэдура прэзідэнцкіх выбараў успрымаецца Аляксандрам Лукашэнкам як пацверджанне ягонай легітымнасці, а не як спаборная працэдура з адкрытым вынікам.

У гэтай сувязі цікавай уяўляецца і выснова, зробленая расійскімі даследнікамі на падставе кантэнт-аналізу выступаў А. Лукашэнкі ў 2001–2003 гадах, пра тое, што ў яго істотна зменшылася такая характарыстыка прамоваў, як «Жаданне ўлады», і вырас «Страх улады». «*То есть он уже не так стремится к новым источникам власти, к подчинению окружения для достижения собственных целей, а больше озабочен неудачами в использовании собственных властных полномочий и боязнью их потерять*» (Шалак, 2004: 92).

Нягледзячы на тое што Лукашэнка неаднаразова падкрэслівае ў сваіх выступах наўпроставую залежнасць не толькі прэзідэнта, але і парламента – і ўсёй улады – ад народу, іншыя палітычныя актары вельмі асцярожна выкарыстоўваюць гэтую катэгорыю. У чыста прагматычным маўленні Сяргея Сідорскага слова «народ» выкарыстоўваецца вельмі рэдка, толькі ў рытуальных віншаваннях (напрыклад, у віншаваннях да Дня Перамогі, дзе сам тэкст саткансы са стандартных формулаў яшчэ савецкіх часоў). Для старшыняў парламента вельмі важна падкрэсліць інтымную і непасрэдную сувязь народу з прэзідэнтам, тады як дэпутаты сувязь з народам могуць мець толькі апасродкавана праз кіраўніка дзяржавы, выконваючы ягоныя даручэнні: «*Решения всенародного форума, убедительная победа Александра Григорьевича Лукашенко продемонстрировали твердую приверженность белорусского народа политическому курсу, на деле доказавшему свою эффективность*» (Андрейченко, 2010).

Варта адзначыць і тую тэндэнцыю, што ў сваіх выступах Лукашэнка пастаянна выкарыстоўвае ярка выяўленыя станоўчыя характарыстыкі для вызначэння катэгорыі «народ»: «*Белорусы – это героический и гордый народ*»; «*Наш народ умный*»; «*Наш народ настолько толерантный*»; «*Белорусы – цивилизованные, трудолюбивые и крепкие духом люди*». Адпаведна, любы слухач мае магчымасць ідэнтыфікаваць сябе з гэтаю калектыўнаю супольнасцю, якая мае выключна пазітыўны вобраз, што псіхалагічна палягчае працэдуру атаясамлення сябе з «народам». З іншага боку, сталае напамінанне пра веліч і мудрасць беларускага народу таксама

кладзецца ў падмурак легітымнасці А. Лукашэнкі, бо лішні раз падкрэслівае ўніверсальную правільнасць абрання яго прэзідэнтам: «*Уверен, мудрый белорусский народ в очередной раз сделает правильный выбор*» (Лукашенко, 2008е).

Пры гэтым слова «народ» выкарыстоўваецца часцяком у якасці заменніка слова «краіна» або «Беларусь». І ў прамовах Лукашэнкі часцяком гэтыя катэгорыі, падзеленыя аналітычна (народ выбірае прэзідэнта, а той яго абараняе), змешваюцца і набываюць статус узаемазамяняльных. Пры аналізе сімвалічнага парадку агітацыйных плакатаў Павел Баркоўскі адзначыў, што іх галоўнае пасланне складаецца ў замацаванні тоеснасці: Беларусь + дзяржава = народ = прэзідэнт, ці ў формуле Беларусь = дзяржава для народу = народны прэзідэнт (Баркоўскі, 2007: 100–101). Такім чынам, логіка выкарыстання адносінаў «народ – прэзідэнт» дыферэнцаваная: яны могуць укладацца ў зададзеную схему ўзаемаадносінаў (народ выбірае прэзідэнта, а той яго абараняе), або атаясамлівацца. Але, так або інакш, у публічных выступах дзяржаўных актараў, у працы апарату беларускіх масмедыя, у серыях агітацыйных плакатаў і г. д. зноў і зноў прайграецца ўсё тое ж замкнёнае кола, калі катэгорыя народу набывае ключавое значэнне для легітымацыі не проста беларускіх уладаў, але асабіста А. Лукашэнкі.

Пры гэтым важна падкрэсліць, што фактычна вызначальнаю рысай і базаваю характарыстыкаю для беларускага народу выступае яго лаяльнасць уладзе. Адпаведна, крытэрам для выключэння з калектыўнага цела народу ёсць праява апазіцыйных намераў, шкоднае жаданне пайсці насуперак агульнай мэце. Не дзіўна, што галоўным процілеглым полюсам для народу ў публічных выступах прэзідэнта Беларусі выступае палітычная апазіцыя: «*10-миллионный народ – несколько сотен человек оппозиции*»; «*“Свядомыя” будоражат народ*».

## III. Стаўленне да знешніх «чужых»: ЗША і Еўрапейскі звяз у прамовах перыяду «лібералізацыі»

Вышэй ішла гаворка пра сталыя і нязменныя пазіцыі для выступаў, у першую чаргу, Аляксандра Лукашэнкі. Але пры вывучэнні гэтага перыяду (2008–2010 гады) нас цікавіла, ці ўплываў узяты курс на лібералізацыю на змест і форму публічных выступаў вышэйшых палітычных актараў у Беларусі.

Мы прапанавалі гіпотэзу, што лібералізацыя мусіла выяўляцца і ў публічных тэкстах, дзе яна абумоўлівае некалькі ўзаемазлучаных працэсаў: адмову ад стратэгіі ізаляцыі ды спадарожнае зніжэнне канфрантацыйнасці і агрэсіўнасці ў адносінах да тых, хто традыцыйна ўспрымаецца «чужымі» ў выбудоўванні інстытуцыйнай ідэнтычнасці.

Шматлікія даследнікі адзначалі, што пры арыентацыі ва ўнутрыпалітычнай прасторы такім «чужым» для беларускіх уладаў выступае

палітычная апазіцыя (для ўладаў гэта адзіны суб'ект, нягледзячы на разнастайнасць і ўнутраную канфліктнасць розных палітычных сілаў, якія аб'ядноўвае толькі негатыўнае стаўленне да існага рэжыму). Пры гэтым у сферы міжнародных адносінаў такую ролю выконвае Захад (які можна дыферэнцыяваць на ЗША і Еўропу/Еўрапейскі звяз). Гэтак, Ганна Васілевіч піша, што «*"ворагамі" з'яўляюцца краіны Захаду, якія прасоўваюць ліберальныя каштоўнасці, што нібыта прадстаўляюцца імі як адзіна слушныя*» (Васілевіч, 2011: 195; гл. таксама Гужон, 2007: 7–8).

Значна больш складаная функцыя прыпісваецца Расіі, бо стаўленне да гэтай краіны ў беларускіх уладаў амбівалентнае. Доўгі час шматлікія аналітыкі прыпісвалі А. Лукашэнку гарачае жаданне зліцца з Расіяй у абдымках, і сам дзяржаўны праект ідэнтычнасці разглядаўся як прарасійскі, праславянскі, прасавецкі (Нордбэрг, Кузё, 2001; Гансэн, 2006). Адпаведна, у «*постсавецкім наратыве Расія была заўсёды дарыльнікам, абаронцай і крыніцай пазітыўнага*» (Brzozowska, 2003: 55). Тым не менш, прабуксоўка інтэграцыйнага праекта з Расіяй і відавочнае нежаданне прэзідэнта Беларусі паступацца хоць часткай улады ў «сваёй» краіне відавочна паўплывалі на оптыку экспертнага разгляду гэтых прарасійскіх настрояў. Было прызнана, што Расія для беларускіх уладаў выконвае, хутчэй, складаную ролю «свайго чужога»: ён мае як агульныя рысы, што дазваляюць канстытуяваць сімвалічную агульнасць на ўзроўні вонкавай рэпрэзентацыі, так і незнішчальныя адрозненні. Наталля Лешчанка такім чынам апісвае гэтую трансфармацыю: «*Як толькі працэс інтэграцыі пачаў пагражаць падарваць неабмежаваную ўладу прэзідэнта Лукашэнкі ў Беларусі, апошні хутка змяніў кірунак і пачаў падкрэсліваць тэмы беларускай суверэннасці і незалежнасці. Амаль за ноч прэзідэнт Лукашэнка ператварыўся са «славянскага інтэгратара» ў прынцыповага абаронцу беларускай нацыянальнай незалежнасці*» (Leshchenko, 2008: 1421; гл. таксама Рудлінг, 2010: 100–101).

Ужо адзначалася, што найважнейшаю мэтаю лібералізацыі абвясцілі паляпшэнне адносінаў з Захадам. З гэтай мэты лагічна мусілі б выцякаць пэўныя наступствы для публічнай рыторыкі ўладаў Беларусі:

1) належала адмовіцца ад негатыўнага вобразу Захаду і перайсці да рыторыкі канструктыўнага дыялогу і супрацы;

2) для заходніх краінаў найважнейшую ролю ў такім паляпшэнні адносінаў грае выкананне дэмакратычных стандартаў унутры краіны, таму трэба было б чакаць змякчэння агрэсіўнасці і ваяўнічасці ў адносінах да «апазіцыі», замены ваяўнічай рыторыкі рыторыкай агульнай справы.

Разгледзім спачатку, ці змянялася ў 2008–2010 гады танальнасць ацэнак ЗША.

У першай палове 2008 года ў выступах Лукашэнкі ЗША выглядаюць ледзь не галоўным ворагам Беларусі, які мэтанакіравана праводзіць варожую палітыку, пры гэтым прэзідэнт паслядоўна дэмаскуе «сапраўдную»

падаплёку гэтай палітыкі: «*Соединенные Штаты Америки, ставшие после краха Советского Союза единственной сверхдержавой, взяли, к сожалению, жесткий курс на построение однополярного мира. Противовесом этой имперской стратегии в современных условиях может быть и Россия, и Китай, и Индия, и страны Латинской Америки поднимаются. В этом я убедился после своего последнего визита туда. Да и Африка не будет молчать. Появляются новые центры силы, которые могут спасти нашу планету. И один из таких центров силы находится здесь, на перекрестке путей России и Беларуси. Отсюда и такое отношение к нам*» (Лукашенко, 2008b). Адпаведна, адзін з галоўных чыннікаў варожага стаўлення да Беларусі – гэта падтрыманне саюзніцкіх адносінаў з Расіяй і актыўнае ўключэнне ў інтэграцыйныя працэсы на постсавецкай прасторы, якія могуць стварыць процівагу амерыканскаму імперыялістычнаму панаванню. Таксама Лукашэнка часта згадвае эканамічныя чыннікі негатыўнага курсу ЗША ў адносінах да Беларусі, у якім дамінуюць матывы канкурэнцыі, выкліканыя актыўным прасоўваннем беларускіх тавараў на міжнародных рынках. Усе гэтыя ўтоеныя матывы павінны дэзавуяваць публічную стратэгію крытыкі з боку Злучаных Штатаў, якія вінавацяць улады Беларусі ў парушэнні правоў чалавека і незахаванні дэмакратычных стандартаў.

У 2008 годзе гучаць і заклікі да перагляду адносінаў і ўсталявання добразычлівых стасункаў, але важна адзначыць, што ў такіх выступах выразна паказваецца адзіны сэнс паляпшэння ўзаемаадносінаў – эканамічная выгода: «*Мы могли бы иметь 10 миллиардов с Америкой товарооборота, и перспективы в этом отношении, повторяю, очень большие*» (Лукашенко, 2008g). Своеасабліва фармулююцца і ўмовы для такога паляплення стасункаў: адмова ЗША ад падтрымання беларускай апазіцыі ды прэтэнзіяў на кантроль за ўзроўнем развіцця дэмакратыі ў Беларусі.

Калі ЗША паказваюцца ў выступах галоўным ворагам краіны, які ўводзіць санкцыі і стымулюе экстрэмісцкую дзейнасць апазіцыі, то да Еўразвязу стаўленне значна больш добразычлівае. З аднаго боку, часцяком у Лукашэнкі Еўразвяз і ЗША сімвалічна злучаюцца, асабліва калі гэта датычыць санкцыяў: «*Вот Вам пример двойных стандартов и политики Европейского союза, которая, в общем-то, является продолжением политики Соединенных Штатов Америки*» (Лукашенко, 2008d). Але пры гэтым ЗША ў публічных выступах прэзідэнта Беларусі разглядаюцца як асноўны ініцыятар увядзення палітыкі санкцыяў у адносінах да Беларусі і з боку Еўразвязу, адкуль выцякае, што ў «звычайным» рэжыме, без падбухторвання з боку ЗША, еўрапейскія структуры павінны быць зацікаўленыя ў паляпшэнні адносінаў з Беларуссю (ізноў жа, галоўным чынам гэта абумоўлена эканамічнымі чыннікамі, найперш патрэбай нарошчвання таваразвароту).

У 2009 годзе адбываецца істотная змена танальнасці рыторыкі ў

адносінах да Злучаных Штатаў, звязаная ў тым ліку з прыходам да ўлады ў гэтай краіне новай адміністрацыі (з 30 студзеня 2009 года пасаду прэзідэнта ЗША займае Барак Оўбама). Практычна адразу ж А. Лукашэнка зрабіў сур'ёзную стаўку на падкрэсліванне «мудрасці» новаабранага амерыканскага прэзідэнта, якая павінна прывесці яго да ўсведамлення неабходнасці паляпшэння адносінаў з Беларуссю: «*Барак Обама – очень логичный, умный, восприимчивый человек. Он понимает, умеет слушать, делать определенные выводы. Если он такой, чего он должен драться с Беларусью? Какой уж большой вред от Беларуси может получить Америка? Никакой. А пользы гораздо больше*» (Лукашенко, 2009с). Фактычна ўсе згадванні новай адміністрацыі ЗША яшчэ з канца 2008 года вытрыманыя ў станоўчым ключы, падкрэсліваецца, што змена курсу міжнароднай палітыкі ЗША пры новым прэзідэнце абавязкова павінна прывесці і да пацяплення адносінаў з Беларуссю: «*Я склонен полагать, что у Президента Обамы взгляд на мир более адекватен и демократичен, не обременен пережитками холодной войны и агрессивными идеологическими подходами к решению международных вопросов. Такой подход полностью созвучен принципам межгосударственного сотрудничества, которыми руководствуется Беларусь. С нынешней администрацией мы уже начали осторожный разговор и готовы протянуть руку дружбы американским партнерам*» (Лукашенко, 2010а).

Ува ўсіх выступах А. Лукашэнкі 2009–2010 гадоў прасочваецца адзіная рытарычная стратэгія: падкрэсліваецца негатыўнае мінулае беларуска-амерыканскіх адносінаў (віна за такі стан ускладаецца ў першую чаргу на адміністрацыю Буша), пры гэтым сучаснасць разглядаецца як адкрытая прастора, дзе добрая воля кіраўнікоў дзвюх дзяржаваў мае прывесці да наладжвання цеснай і ўзаемавыгаднай супрацы – ізноў маецца на ўвазе пераважна эканамічная сфера. Усе згадванні ЗША ў гады лібералізацыі вытрыманыя менавіта ў гэтым ключы, які можна звесці да наступнай формулы: «*Беларусь готова оставить все обиды в прошлом и начать плодотворное сотрудничество с Соединенными Штатами не только в экономической, но и в других сферах*» (Лукашенко, 2010а).

Натуральна, прэм'ер-міністр С. Сідорскі, чые выступы практычна заўсёды канцэнтраваліся на эканамічнай сферы, таксама падтрымліваў гэтую лінію на развіццё эканамічных адносінаў. Але ў цэлым іншыя афіцыйныя асобы ў перыяд «лібералізацыі» як быццам пазбягалі згадвання ЗША ў сваіх выступах (згадкі толькі эпізадычныя і без ацэначных меркаванняў): відавочная змена дзяржаўнай палітыкі ў гэтым аспекце не атрымала з іх боку адкрытай падтрымкі.

Здаецца, у тэкстах выступаў гэтага перыяду можна знайсці пацвярджанне вышэйпрыведзенай гіпотэзы, што адным з ключавых параметраў лібералізацыі мае зрабіцца паніжэнне агрэсіўнасці рыторыкі. Гэта сапраўды пацвярджае аналіз публічных

выступаў у дачыненні да ЗША. З іншага боку, у знешне спрыяльным курсе хаваецца пастка, якая потым эфектыўна спрацавала: паляпшэнне беларуска-амерыканскіх адносінаў разглядаецца выключна як перагляд амерыканскім бокам сваіх каштоўнасцяў і стандартаў у вобласці абароны дэмакратыі ды правоў чалавека і пераключэнне на прагматычны курс, накіраваны на дасягненне эканамічнай выгады.

Шмат у чым ідэнтычная карціна назіраецца і ў рэпрэзентацыі адносінаў з Еўразвязам, але тут адбыўся не настолькі радыкальны пераварот, як у выпадку ЗША. У цэлым, ужо з 2008 года назіраецца ўмацаванне і замацаванне ў публічных выступах рыторыкі дыялогу і супрацы. Праблемы або тлумачацца амерыканскім уплывам (2008 год), або прызнаюцца віной еўрапейскай бюракратыі: «*Хочу подчеркнуть, что не мы были инициаторами ухудшения политических отношений с Европейским союзом. Европейские чиновники сами себя загнали в угол в связи с надуманными темами политзаключенных и прав человека. Но мы и тут пошли навстречу*» (Лукашенко, 2008b). Праблемы таксама тлумачацца інтрыгамі беларускай апазіцыі. Ізноў падкрэсліваецца тое, што цяжкасці ва ўзаемаадносінах абумоўленыя «надуманымі» пытаннямі выканання дэмакратычных працэдураў: «*Я думаю, что то, как ставит Европейский Союз вопрос перед нами, и выеденного яйца не стоит*» (Лукашенко, 2008c).

І тут назіраецца тая ж стратэгія «разрадкі», якая акцэнтуе, што Беларусь максімальна адкрытая да паляпшэння адносінаў (бо праблемы паўсталі з-за фантазіяў еўрапейскіх чыноўнікаў і не маюць пад сабою рэальнага падмурку). Фактычна прапаноўваецца гандаль: Еўропа мусіць заплюшчыць вочы на сітуацыю ў Беларусі як на ўнутраныя справы дзяржавы, у якіх адзіным гаспадаром ёсць беларускі народ. А Лукашэнка прапаноўвае Еўразвязу атрымаць ад гэтага свае прагматычныя выгоды – вядома ж, у першую чаргу рост тавараабароту.

Тым часам яшчэ адным публічным спікерам у пытанні паляпшэння адносінаў з Еўропаю робіцца кіраўнік Адміністрацыі прэзідэнта Уладзімір Макей, які ў цэлым падтрымліваў лінію, пазначаную кіраўніком дзяржавы, але ўносіў у яе таксама і досыць істотныя змены. Гэтак, у поўнай адпаведнасці з такою стратэгіяй ён у выступе на адкрыцці Мінскага форуму 4 лістапада 2009 года заявіў, што «*против нас не должны применяться брутальные методы кнута и пряника*», але пайшоў далей за кіраўніка дзяржавы, прызнаўшы, што «*Беларусь полностью разделяет европейские ценности и готова к постепенному развитию и модернизации*» (Макей, 2009). Зрэшты, гэтая цікавая лінія так і не атрымала свайго развіцця. На наступным Мінскім форуме 2010 года Макей агучыў ужо стандартныя аргументы: «*Нас еще упрекают в том, что мы "недостаточно демократичны", что мы "не соответствуем общеевропейским ценностям", что у нас наметился "регресс" в отношениях с Евросоюзом. Я думаю, что*

*это, в определенной мере, безответственные заявления*» (Макей, 2010).

Усе прыведзеныя вышэй інтэрпрэтацыі былі зробленыя на аснове якаснага аналізу тэксту, які можа ўвесці ў зман суб'ектыўнасцю інтэрпрэтацыі. Таму для падмацавання высноваў выкарыстоўваліся дадзеныя колькаснага кантэнт-аналізу корпусу прамоваў прэзідэнта Аляксандра Лукашэнкі за 2008–2010 гады з дапамогай праграмы "ВААЛ" (прамовы іншых асобаў давялося выключыць з аналізу, паколькі яны не давалі дастатковы масіў інфармацыі для праграмнай апрацоўкі). Напачатку былі створаныя адмысловыя кантэкстуальныя катэгорыі аналізу: напрыклад, катэгорыя «Амерыка» ўключае ў сябе такія словы, як «Амерыка», «амерыканскі», «ЗША», «Злучаныя Штаты», «Вашынгтон» і г. д. (адпаведна, з масіву тэксту пры кантэнт-аналізе адбіраліся тыя сказы, якія змяшчалі словы з гэтых кантэкстуальных катэгорый). Пасля выбудоўваліся эмацыйныя профілі катэгорый, якія залежалі ад кантэксту іх ужывання ў аналізаваных тэкстах.[4] З гэтых профіляў мы адабралі тыя характарыстыкі, якія нам падаліся найбольш істотнымі ў мэтах дадзенага даследавання: «зычлівасць», «агрэсіўнасць», «свой», «чужы». Натуральна, што ўсе атрыманыя паказчыкі можна разглядаць толькі адносна адзін аднаго, яны не з'яўляюцца самадастатковымі,

---

[4] Для разліку катэгорый «свой» і «чужы» выкарыстоўвалася ацэнка адхілення колькасці сустрэтых слоў дадзенай катэгорыі ад сярэдняй нормы для мовы. Гэта традыцыйная ацэнка ў кантэнт-аналізе, вядомая як z-score. Падлічваецца яна па наступнай формуле: (N-E)/(стандартнае адхіленне), дзе N – колькасць слоў дадзенай катэгорыі, сустрэтых у аналізаваным тэксце, а E – чаканы лік уваходжанняў слоў дадзенай катэгорыі ў тэкст. Пры падліку чаканага ліку слоў некаторай катэгорыі ў тэксце ўлічваецца даўжыня гэтага тэксту (у словах) і звычайная чашчыня сустракальнасці слоў катэгорыі ў мове. Аналіз праводзіўся як для асноўнага жанру, дзе нармальная чашчыня разлічвалася па абавязковай праграме па рускай літаратуры для абітурыентаў ВНУ у Расіі.

Катэгорыі «зычлівасць» і «агрэсіўнасць» адносяцца да эмацыйна-лексічнай ацэнкі тэксту. Эмацыйны фон вызначаецца не толькі словамі, якія канкрэтызуюць эмоцыі, але і агульнаацэначнымі словамі ці наміналізацыямі, якія выкарыстоўваюцца для вызначэння ўдзельнікаў сітуацыі. Адпаведна, для вызначэння эмацыйнага фону выкарыстоўваюцца наступныя групы слоў: 1) агульнаацэначныя словы (добра, дрэнна, цяжка і г. д.); 2) прыметнікі і наміналізацыі, якія ўжываюцца для апісання і ацэнкі з уключэннем найбольш распаўсюджаных метафар; 3) дзеясловы, якія апісваюць эмацыйныя рэакцыі чалавека. Эмоцыі вызначаліся праз змяшчэнне слоў на пэўных сэнсавых шкалах, дзе задаваліся полюсы мінімальнага і максімальнага значэння (зноў жа, для вызначэння полюсаў выкарыстоўваліся сярэднія разлікі для абавязковай праграмы па рускай літаратуры). Напрыклад, для фактара «зычлівасць» адмоўны полюс шкалы – «злы, бесчалавечны», цэнтр шкалы – «балбатун, канспіратар», пазітыўны полюс шкалы – «добры, сардэчны». Адпаведна, эмацыйна-лексічныя ацэнкі вылічваюцца шляхам падліку сярэдніх велічынь па кожнай са шкалаў.

**Табліца 1. Эмацыйныя профілі катэгорый «Амерыка» і «Еўропа» (2008–2010)**

| | Амерыка | | | Еўропа | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| | 2008 | 2009 | 2010 | 2008 | 2009 | 2010 |
| **Зычлівасць** | 6,3 | 6,0 | 6,7 | 6,7 | 6,1 | 7,5 |
| **Агрэсіўнасць** | -5,1 | -6,4 | -4,9 | -7,1 | -5,4 | -6,0 |
| **Свой** | 18,8 | 25,6 | 20,8 | 27,6 | 33,4 | 33,4 |
| **Чужы** | 3,5 | 3,2 | -0,3 | -0,5 | 3,9 | -2,1 |

толькі на падставе параўнання паказчыкаў можна рабіць нейкія высновы.

Аналіз змены эмацыйна-лексічных ацэнак дэманструе, што ўзровень зычлівасці ў дачыненні да Амерыкі і Еўропы ў прамовах Лукашэнкі перыяду «лібералізацыі» заставаўся практычна нязменным, тое ж датычыць і ступені агрэсіўнасці. Тут мы можам заўважыць толькі тое, што «Еўропа» сапраўды ўспрымаецца значна больш «сваёю», чым «Амерыка».

Зноў жа, паколькі нейкія істотныя тэндэнцыі можна вылучыць толькі з кампаратыўнай перспектывы, мае сэнс увесці яшчэ аб'ект для параўнання — Расію. Мы адмыслова катэгарыяльна падзялілі «Расію» як краіну і як кіраўніцтва расійскай дзяржавы, персаніфікаванае прэзідэнтам Расіі Дзмітрыем Мядзведзевым, паколькі асабліва ў 2009–2010 гадах разгортваліся розныя інфармацыйныя скандалы паміж кіраўніцтвам Беларусі і Расіі, хоць у асноўным рыторыка брацтва і сяброўства Беларусі і Расіі істотна не змянілася.

Адразу кідаецца ў вочы рэзкае падзенне «зычлівасці» менавіта ў дачыненні да Мядзведзева, якое адбылося ў 2010 годзе. Цалкам лагічна, што пры гэтым узрастае ступень агрэсіўнасці ў дачыненні да Расіі і Мядзведзева ў прамовах Лукашэнкі, няхай сабе не так рэзка і радыкальна, як тое адбылося са стратай зычлівага стаўлення. Расія ў найбольшай ступені ўспрымаецца і апісваецца, як «свой», хоць трэба адзначыць надзвычай істотную рэч, што ў дадзены перыяд паказчыкі атаясамлення з Расіяй і Еўропай былі вельмі блізкімі. Той факт, што ў перыяд «лібералізацыі» апазнаванне Еўропы і Расіі як «свайго» знаходзілася практычна на аднолькавым узроўні, можа казаць

**Табліца 2. Эмацыйныя профілі катэгорый «Расія» і «Мядзведзеў» (2008–2010)**

| | Расія | | | Мядзведзеў | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| | 2008 | 2009 | 2010 | 2008 | 2009 | 2010 |
| **Зычлівасць** | 7,3 | 8,2 | 7,3 | 14,4 | 12,3 | -3,5 |
| **Агрэсіўнасць** | -6,2 | -6,3 | -3,7 | -4,7 | -0,8 | -0,5 |
| **Свой** | 35,6 | 42,2 | 35,6 | 11,4 | 2,4 | 15,1 |
| **Чужы** | 7,3 | 8,2 | 7,3 | 2,8 | 0,3 | 2,0 |

пра акрэслены этап геапалітычнай нявызначанасці, калі для беларускай улады амаль што аднолькава прывабнымі былі і заходняя, і ўсходняя перспектывы. Але правал вонкавай палітыкі ў заходнім накірунку таксама прывёў і да завяршэння гэтай стадыі нявызначанасці.

Цяжка адназначна патлумачыць, але ў эмацыянальна-лексічным профілі Расіі досыць вялікія паказчыкі і ўспрыняцця яе як «чужой», што паказвае на падвышаную амбівалентнасць адносін да «вялікага брата». Але ў адносінах да Мядзведзева ўсё больш проста, кіраўніка «роднаснай» краіны Лукашэнка відавочна не хоча ўспрымаць як «свайго» і дэманструе ў гэты час лепшае эмацыйнае стаўленне да ЗША (даўняга рытарычнага ворага), чым да прэзідэнта суседняй дзяржавы.

## IV. Рыторыка ў дачыненні да «апазіцыі»: ці была лібералізацыя?

Яшчэ важнейшым для разумення лібералізацыі ёсць стаўленне ўладаў Беларусі да дэмакратычных стандартаў, і тут найбольш характэрным маркерам выступае стаўленне да апазіцыі.

Вельмі значным нам уяўляецца той факт, што негатыўная эмацыйная афарбоўка і адкрытая варожасць да сваіх палітычных апанентаў ёсць нязменнаю рысаю выступаў А. Лукашэнкі, якая не перажывае ніякіх зменаў і ў перыяд лібералізацыі. Часцяком у ягоных выступах выкарыстоўваюцца і вельмі грубыя ды абразлівыя выразы на адрас «так званай апазіцыі». Галоўныя аргументы крытыкі – палітычная апазіцыя ў Беларусі адстойвае толькі свае інтарэсы ды інтарэсы заходніх гаспадароў, у той час як яе дзеянні шкодзяць беларускаму народу. Нягледзячы на тое што ў 2010 годзе дапускаецца нябачаная доўгі час ступень свабоды падчас прэзідэнцкай выбарчай кампаніі, у публічнай рыторыцы Лукашэнкі гэта называецца ўсяго толькі змушанаю саступкай «еўрапейскім партнёрам», якая зусім не змяняе сутнасці справы.

Прывядзём найболей характэрныя выказванні (адзначым, што тэма апазіцыі ў А. Лукашэнкі – адна з самых улюбёных, і прыклады можна пералічваць дзясяткамі):

***2008 год***: «*Им совершенно безразлично, что от этого гвалта страдает не Лукашенко, а люди. Впрочем, интересы страны и граждан — это совсем не предмет их деятельности. Извините за выражение, они людей просто используют*» (Лукашенко, 2008е);

«*Как власть должна реагировать на эти безобразия, когда в час пик люди не могут проехать по центру столицы, когда молодчики набрасываются с кулаками? Кого в данном случае защищать — сотни тысяч жителей или группу отвязных бездельников, которым захотелось поиграть в "революционеров", подчеркиваю, на чужие, заграничные деньги?*» (Лукашенко, 2008е);

«*Наши "свядомыя", так называемые оппозиционеры, которые рвутся*

*во власть, нигде не работают, а живут лучше всех в республике*» (Лукашенко, 2008f);

«*Нашли какого-то вшивого оппозиционера*» (Лукашенко, 2008fe).

***2009 год***: «*У них уже поперло это или по пьяни, или от какой-то дури, у них это уже все полезло через уши, через другие места, через все дыры. Они не сдержались. Поэтому это не оппозиция — это "пятая колонна". "Пятая колонна"! Это враги белорусского народа! [...]*

*Мы знаем, о чем они говорят, что они требуют от европейских чиновников, от американцев. Все это страшный вред, который они пытаются нанести нашему государству. [...]*

*Вот она, эта позиция сегодня нашей, так называемой, вшивой, подчеркиваю вшивой оппозиции! Никакая она не оппозиция. "Пятая колонна", враги белорусского народа. Я это ответственно заявляю, зная, о чем они говорят и чего они хотят. Они готовы сегодня продаться любому, лишь только бы свернуть голову Лукашенко, вскочить в кресло самим и разбомбить страну*» (Лукашенко, 2009a);

«*Дорогие мои, все вы, если задумаетесь, поймете — это же не оппозиция, это просто враги народа!*» (Лукашенко, 2009b).

***2010 год***: «*Наша же оппозиция борется только за свое благосостояние. Им не важно, кому служить – Западу или России... Лишь бы платили*» (Лукашенко, 2010b);

«*Вы что, меня бы простили, если бы завтра громили страну, а я, имея в руках силовой блок, оружие и прочее, мародерам и идиотам позволил издеваться над страной и народом?!*» (Лукашенко, 2010c);

«*Никакие они не оппозиционеры. Это враги народа. Где только можно хуже сделать для государства – они там. Вчера Америка, Европа на нас давила – они там. Сегодня Россия на нас давит – они там. Одни и те же лица, заметьте. Одни и те же лица. Поэтому я их не называю оппозицией. Иногда говорю "так называемая оппозиция"*» (Лукашенко, 2010e);

«*Наша так называемая оппозиция пока действует с позиции "чем хуже – тем лучше": чем хуже для народа – тем лучше для них. На таких основах я не только с оппозицией, но в том числе и с любыми другими гражданами Беларуси или иностранными государствами сотрудничать не намерен*» (Лукашенко, 2010f).

Уяўляецца, што менавіта тут у публічных выступах закладаліся перадумовы для канчатковага краху палітыкі лібералізацыі пасля 19 снежня 2010 года. Гвалтоўны разгон дэманстрацыі пратэсту і судовы пераслед актыўных удзельнікаў гэтай акцыі спарадзілі мноства канспіралагічных тэорыяў, якія тлумачылі, каму выгоднае гэтае вяртанне да рэпрэсіўных формаў вядзення палітыкі, што звялі высілкі Беларусі ў наладжванні адносінаў з Захадам на нішто. Некаторыя бачылі ў гэтым руку Расіі, некаторыя тлумачылі гэта кланаваю змовай у асяроддзі Лукашэнкі (глядзіце збор аналітыкі ў

першым нумары часопіса «ARCHE» за 2011 год, цалкам прысвечаным падзеям, звязаным з апошнімі прэзідэнцкімі выбарамі, і пратэстам на Плошчы 19 снежня 2010 года).

Але калі ўлічваць, што ў жорстка іерархічнай палітычнай прасторы Беларусі менавіта кіраўнік дзяржавы падае найбольш істотныя сігналы да дзеяння, то брутальны разгон акцыі 19 снежня цалкам выцякаў з логікі прамоваў прэзідэнта цягам усяго перыяду «лібералізацыі». Адпаведна, калі сам Лукашэнка і не быў ініцыятарам такіх дзеянняў, ягоныя публічныя выступы стварылі выдатную магчымасць для разгортвання рэпрэсіяў, пры ажыццяўленні якіх заўсёды можна было спакойна спасылацца на вышэйшую інстанцыю.

Такім чынам, калі паглядзець, як змяняліся эмацыйныя характарыстыкі («зычлівасць», «агрэсіўнасць», «свой», «чужы») публічных прамоваў прэзідэнта Беларусі А. Лукашэнкі за 2008–2010 гг. у дачыненні да апазіцыі, то вымалёўваецца наступная карціна:

Ужо раней пазначалася, што ў год выбараў (2010) досыць істотна знізіўся ўзровень зычлівасці ў дачыненні да Мядзведзева, але тое ж самае адбылося і ў адносінах да апазіцыі. Крыху падняўся і ўзровень агрэсіўнасці. Гэта, у прынцыпе, пацвярджае выснову пра тое, што палітычная лібералізацыя, якая праводзілася ў Беларусі, па сутнасці не прадугледжвала карэнных і радыкальных зменаў у дачыненні да апазіцыі, што мела заканамернае адлюстраванне ў публічнай рыторыцы. Адзначым, што ў беларускай «апазіцыі» зафіксаваны найменшыя паказчыкі «сваіх» у публічных прамовах прэзідэнта, нават меншыя, чым у ЗША.

Тая логіка лібералізацыі, якую беларускае кіраўніцтва паслядоўна агучвала цягам трох гадоў, з самага пачатку, як падаецца, была асуджаная на правал. Ні Еўразвяз, ні тым больш ЗША не мелі істотнай эканамічнай цікавасці да Беларусі, якая магла б прывесці да адмовы ад дэмакратычных каштоўнасцяў і пераходу да прагматычнага курсу. Спроба палепшыць адносіны з Захадам коштам адмовы заходніх краінаў ад кантролю за палітычнымі працэсамі і падтрымання апазіцыі была, відавочна, толькі намерам Лукашэнкі.

Наш аналіз публічных выступаў праводзіўся ўжо ў рэтраспектыўным рэжыме, але ўяўляецца, што калі б аналітыкі ўважліва счытвалі тыя

**Табліца 3. Эмацыйныя профілі катэгорыі «Апазіцыя» (2008–2010)**

| | **Апазіцыя** | | |
|---|---|---|---|
| | **2008** | **2009** | **2010** |
| **Зычлівасць** | 8,9 | 7,2 | 1,2 |
| **Агрэсіўнасць** | -3,1 | -2,9 | -1,0 |
| **Свой** | 10,5 | 11,9 | 9,3 |
| **Чужы** | 5,5 | 4,2 | 5,2 |

«пасланні» ўладаў Беларусі, то крах палітыкі лібералізацыі быў бы цалкам прадказальны.

## V. Некаторыя высновы

Аналіз прамоваў дзяржаўных асобаў пацвярджае, што ў публічнай сферы відавочна дамінуе прэзідэнт краіны, які выступае асноўным рэтранслятарам прынятых рашэнняў. Калі ва ўладнай палітыцы і існуюць нейкія разыходжанні або ўмацоўваюцца альтэрнатыўныя асяродкі прыняцця рашэнняў, то гэта не выносіцца на паверхню.

Прамовы А. Лукашэнкі, відавочна, акрамя звычайных мэтаў інфармавання насельніцтва і прадстаўлення кірункаў дзеянняў, маюць вялізны сугестыўны і легітымацыйны зарад, што і выходзіць на першы план. Яны маюць пераканаць насельніцтва і самога прэзідэнта, што ягоныя дзеянні цалкам адпавядаюць «інтарэсам народу» – але самі гэтыя інтарэсы выбудоўвае дзяржаўны апарат улады, у тым ліку і праз арганізацыю Усенародных сходаў. Фактычна прамовы Лукашэнкі нагадваюць замкнёнае кола, дзе словы выкарыстоўваюцца толькі для замацавання існага становішча. Такім чынам, ствараюцца ўмовы для ажыццяўлення палітыкі, у якой немагчымыя дэмакратычныя спаборныя працэдуры.

Тым не менш, да гэтых прамоваў нельга ставіцца выключна як да нейкіх рытарычных і дэкларатыўных выказванняў, аналіз дэманструе, што пры іх вывучэнні і суаднясенні з рэчаіснасцю выяўляюцца розныя ўладныя стратэгіі. У тэкстах прамоваў досыць відавочна праяўляецца сістэма каштоўнасцяў, якою карыстаюцца ўлады Беларусі. І ў перыяд уяўнага паляпшэння адносінаў з Захадам ніякіх істотных зменаў у ёй не адбылося. Паляпшэнне адносінаў разумелася як прыняцце некаторых дэкаратыўных саступак, што дэмакратычныя краіны мелі ўспрыняць як сігнал магчымага пераходу да больш прагматычнай і эканамічна арыентаванай палітыкі ў дачыненні да Беларусі. Атрымалася, што агучаная з абодвух бакоў стаўка на паляпшэнне адносінаў і супрацу прынцыпова адрознівалася сваімі каштоўнаснымі падставамі, і таму наўрад ці такое паляпшэнне магло скончыцца паспяхова. Праведзены аналіз публічных выступаў выдатна дэманструе, што ўлады Беларусі прымалі лібералізацыю толькі часткова, і яна ніяк не закранала змены стаўлення да палітычнай апазіцыі. Гэтая публічная пазіцыя цалкам сугучная практычным дзеянням пасля снежня 2010 года. Фармаванне негатыўнага вобразу апазіцыі заставалася для ўладаў устойлівым ядром бачання сітуацыі ўнутры краіны. Гэты факт паказвае межы «лібералізацыі», якія былі закладзеныя ў гэтую палітыку з самага пачатку.

## Літаратура


1. Андрейченко, Владимир (2010). Спикер парламента Беларуси заявляет, что выборы президента прошли в строгом соответствии с национальным законодательством, 22.12.2010, *Информационно-справочный портал Беларуси Interfax.by*, URL (доступ 04.03.2012): http://www.interfax.by/news/belarus/85224.
2. Баркоўскі, Павел (2007). «Сымбалічны пурпурова-салатавы парадак: Беларусь = Народны Прэзыдэнт», ARCHE, №3: 96–101.
3. Васілевіч, Ганна (2011). «Вобраз Беларусі і беларусаў у прамовах Прэзідэнта» ў С. Дусэт, А. Дынько, А. Пашкевіч (рэд.), Вяртанне ў Еўропу: мінулае і будучыня Беларусі. Варшава: Oficyna Wydawnicza Uczelni Łazarskiego.
4. Гансэн, Імке (2006). «Прастора беларускага палітычнага дыскурсу і яго візуальныя і пэрфарматыўныя элементы» ў Булгакаў В. (рэд.), Геапалітычнае месца Беларусі ў Эўропе і сьвеце. Варшава: Выдавецтва Вышэйшай Школы Гандлю і Права імя Рышарда Лазарскага ў Варшаве.
5. Горных, Андрей (2008). «Вечное возвращение по-белорусски» в А. Усманова (отв. ред.), Белорусский формат: невидимая реальность. Вильнюс: ЕГУ.
6. Гужон, Александра (2007). «Национализм и идентичность в Белоруссии», *Франко-российский научный альманах*, №1. URL (доступ 24.10.2011): http://www.centre-fr.net/article=127
7. Денис, Солвита (2010). «Стратегическая "смесь" для нации: анализ новогодних обращений А. Лукашенко (2003–2009)», *Палітычная сфера*, №14: 80–89.
8. Лукашенко, Александр (2008a). Новогоднее обращение, *Официальный интернет-портал Президента Республики Беларусь*, URL (доступ 04.03.2012): http://president.gov.by/press66834.html#doc.
9. Лукашенко, Александр (2008b). Глава государства посетил факультет журналистики БГУ, 12.02.2008, *Официальный интернет-портал Президента Республики Беларусь*, URL (доступ 04.03.2012): http://president.gov.by/press49435.html#doc.
10. Лукашенко, Александр (2008c). Глава государства совершил поездку в Витебскую область, 15.02.2008, *Официальный интернет-портал Президента Республики Беларусь*, URL (доступ 04.03.2012): http://president.gov.by/press50800.html#doc.
11. Лукашенко, Александр (2008d). Стенограмма интервью Президента Республики Беларусь Лукашенко А.Г. Австрийскому агентству прессы, 20.03.2008, *Официальный интернет-портал Президента Республики Беларусь*, URL (доступ 04.03.2012): http://president.gov.by/press56153.html.
12. Лукашенко, Александр (2008e). Ежегодное Послание Президента Беларуси белорусскому народу и Национальному собранию Республики Беларусь, 30.04.2008, *Официальный интернет-портал Президента Республики Беларусь*, URL (доступ 04.03.2012): http://president.gov.by/data/press57286.doc.
13. Лукашенко, Александр (2008f). Выборы должны пройти строго по Конституции и законам Беларуси, 17.07.2008, Новости Беларуси, URL (доступ 04.03.2012): http://www.newsby.org/news/2008/07/17/text11248.htm.
14. Лукашенко, Александр (2008g). Интервью газете "The Wall Street Journal" (США), 11.11.2008, *Официальный интернет-портал Президента Республики Беларусь*, URL (доступ 04.03.2012): http://president.gov.by/press64800.html#doc.
15. Лукашенко, Александр (2009a). Ответы на вопросы журналистов в ходе рабочей поездки в Витебскую область, 18.03.2009, *Официальный интернет-портал Президента Республики Беларусь*, URL (доступ 04.03.2012): http://www.president.gov.by/press67462.html .
16. Лукашенко, Александр (2009b). Послание белорусскому народу и Национальному

собранию Республики Беларусь, 23.04.2009, *Официальный интернет-портал Президента Республики Беларусь*, URL (доступ 04.03.2012): http://www.president.gov.by/press84268.html.
17. Лукашенко, Александр (2009c). Интервью Президента Республики Беларусь А. Лукашенко информационному агентству «Рейтер», 05.05.2009, *Белорусское информационное агенство БЕЛТА*, URL (доступ 04.03.2012): http://www.belta.by/ru/all_news/president/i_366195.html.
18. Лукашенко, Александр (2010a). Александр Лукашенко встретился с руководством ряда компаний США, 29.03.2010, *Официальный интернет-портал Президента Республики Беларусь*, URL (доступ 04.03.2012): http://president.gov.by/press82421.html#doc.
19. Лукашенко, Александр (2010b). 14 апреля Александр Лукашенко посетил Мозырский район в ходе рабочей поездки по южным регионам страны, 15.04.2010, *Официальный интернет-портал Президента Республики Беларусь*, URL (доступ 04.03.2012): http://www.president.gov.by/press85789.html.
20. Лукашенко, Александр (2010c). Послание Президента Республики Беларусь Александра Лукашенко белорусскому народу и Национальному собранию, 21.04.2010, *Официальный интернет-портал Президента Республики Беларусь*, URL (доступ 04.03.2012): http://www.president.gov.by/press10256.html.
21. Лукашенко, Александр (2010d). Интервью Президента Республики Беларусь А. Лукашенко информационному агентству «Рейтер», 04.05.2010, *Официальный интернет-портал Президента Республики Беларусь*, URL (доступ 04.03.2012): http://president.gov.by/press10274.html .
22. Лукашенко, Александр (2010e). 16 сентября Александр Лукашенко выступил на шестом съезде Федерации профсоюзов Беларуси, 16.09.2010, *Официальный интернет-портал Президента Республики Беларусь*, URL (доступ 04.03.2012): http://www.president.gov.by/press97752.html.
23. Лукашенко, Александр (2010f). 25 ноября Александр Лукашенко дал интервью французской газете «Фигаро», 25.11.2010, *Официальный интернет-портал Президента Республики Беларусь*, URL (доступ 04.03.2012): http://www.president.gov.by/press100685.html#doc.
24. Макей, Владимир (2009). Макей: Надеюсь, что вскоре Совет ЕС снимет все санкции в отношении Беларуси, 05.11.2009, *Белорусский портал TUT.BY*, URL (доступ 04.03.2012): http://news.tut.by/politics/151671.html .
25. Макей, Владимир (2010). Макей: Беларусь вправе ожидать более конструктивных шагов со стороны Евросоюза, 04.11.2010, *Белорусский портал TUT.BY*, URL (доступ 04.03.2012): http://news.tut.by/politics/203574.html.
26. Нордбэрг, Марк, Кузё, Тарас (2001). Пабудова нацыяў і дзяржаваў. Гістарычная спадчына і нацыянальная самасьвядомасьць у Беларусі і Ўкраіне. Параўнаўчы аналіз, ARCHE, №5, URL (доступ 24.10.2011): http://arche.bymedia.net/2001-5/nord501.zip.
*27. Проект ВААЛ*, URL (доступ 04.03.2012): http://www.vaal.ru/.
28. Рудлінг, Пэр Андэрс (2010). «Лукашэнка і “чырвона-карычневыя”: дзяржаўная ідэалогія, ушанаванне мінулага і палітычная прыналежнасць», *Палітычная сфера*, №14: 90–113.
29. Сальнікава, Юнэля (2009). Сацыяльнае канструяванне рэальнасці ў беларускім афіцыйным дыскурсе, *Інтэлектуальная супольнасць Беларусі «Belintellectuals»*, URL (доступ 04.03.2012): http://belintellectuals.eu/publications/287/.
30. Сіліцкі, Віталь (2010). «Прэзідэнцкая адміністрацыя: нявызначаны “новы курс”» у А. Паньковский, В. Костюгова (ред.), Белорусский ежегодник – 2009. Минск: Белорусский институт стратегических исследований.

31. Современный дискурс-анализ, БГУ, URL (доступ 24.10.2011): http://discourseanalysis.org/red.shtml.
32. Ухванова-Шмыгова И.Ф., Савич Е.В., Ефимова Е.В. (2008). *Методология исследований политического дискурса: Актуальные проблемы содержательного анализа общественно-политических текстов: сб. науч. трудов*. Вып. 4.: Политическое поле Беларуси глазами дискурс-аналитика. Минск: БГУ.
33. Шалак, Владимир (2004). *Современный контент-анализ*. Москва: Омега-Л.
34. Belarusian Institute for Strategic Studies Trends (2011). №8. Сентябрь – декабрь 2011. URL (доступ 04.03.2011): http://belinstitute.eu/images/doc-pdf/BISS_Trends_N8_ru.pdf.
35. Brzozowska, Anna (2003). Symbols, Myths and Metaphors: the Discursive Battle Over the ‘True’ Belarusian Narrative, Slovo, Vol. 15, No. 1: 49-58.
36. Leshchenko, Natalia (2008). The National Ideology and the Basis of the Lukashenka Regime in Belarus, *Europe-Asia Studies*. – Vol. 60, No. 8: 1419-1433.